# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

12 красавіка 2019 года №15 (1250) 18+




старонка 2

На фота: мастак Маргус-Рычард Талівэ. Фота Таццяны КАСЬЯН.

# Мастакі з замежжа і Беларусі малявалі на вуліцы стрыт-фуда ў Маладзечне

старонка 21

## Таршэр




ISSN 1991–7155





Адскануйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



На тарцы аднаго з павільёнаў на вуліцы стрыт-фуда з'явіўся алень.

# Мастакі з Азербайджана, Расіі, Італіі, Люксембурга, Эстоніі і Беларусі малявалі на вуліцы стрыт-фуда

**Мастакі прыехалі ў Маладзечна ў рамках моладзевага абмену «Гарадское мастацтва» па праграме Еўрапейскай камісіі Erasmus +. Абмен праходзіць на базе Маладзечанскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя Агінскага.**

МАЛАДЗЕЧНА

Удзельнікі, натхнёўшыся вулічным мастацтвам Мінска, ствараюць сумесную стрыт-арт працу, якая ахоплівае некалькі павільёнаў на вуліцы стрыт-фуда.

**«Вуліца стрыт-фуда» – праект-удзельнік конкурсу сацыяльных праектаў Social Weekend 12. Цяпер праект рыхтуецца да адкрыцця.**

У камандзе – 48 чалавек з розных краін ад 17 да 32 гадоў. Мастакоў сярод іх менш за дзесяць. Яны навучаюць стрыт-арту астатніх удзельнікаў.

– «Гарадское мастацтва» – моладзевая праграма абмену, якая збірае мастакоў ці тых, хто хоча навучыцца маляваць на вуліцах, у адзін праект. Яны ездзяць па розных гарадах. Напрыклад, жыхар Люксембурга дзеліцца досведам з беларусам, – расказвае куратар праекта «Вуліца стрыт-фуда» **Ганна Холад**.

## Ва ўсім свеце не хапае фарбаў

Па ініцыятыве куратара-каардынатара праекта «Гарадское мастацтва» **Даніла Таро** галоўная тэма – прырода.

Таксама спецыяльна для кафэ мастакі зрабілі дызайн некалькіх тарцоў павільёнаў. Напрыклад, на адным з іх з'явіўся кубак з кавай.

Таро жыве ў Эстоніі, Маладзечна наведаў першы раз. Малюе ад 1996 года, кажа, падабаецца рэалізм.

– Для павільёнаў абралі прыродную тэматыку, бо гэта вельмі нейтральная тэма, амаль нікога не раздражняе. Вядома, заўжды нешта некаму не спадабаецца, таму прырода – найлепшы варыянт.

**Таксама тут з'явіўся легендарны кот Францыск. Шукалі яго два дні, каб сфатаграфаваць, – смяецца мастак.**

– Яркія колеры абралі, каб людзі адчувалі пазітыў, бо малюнкі прыносяць радасць. У Маладзечне можна размаляваць хоць усе фасады. Бо не толькі тут, ва ўсім свеце не хапае фарбаў. Летась ездзіў маляваць у Мексіку – там амаль усе сцены распісаныя. Напрыклад, спадабаўся малюнак – вёска, у якой кожны дом рознага колеру.

## Маладзечна – «стэрыльны» горад

**Маргус-Рычард Талівэ** – нікнэйм RIKU – прыехаў у Беларусь са сталіцы Эстоніі – Таліна. Яму 30 гадоў, і 20 з іх райтэр (графіці-мастак) займаецца мастацтвам.

У Эстоніі ён скончыў дзве мастацкія школы, на жыццё зарабляе тым, што малюе на палотнах.

Кажа, адукацыя сапраўды дапамагае ў стварэнні стрыт-арта. Менавіта «сур'ёзныя» карціны на вуліцах стаў ствараць ад 15 гадоў. Маляваў у Італіі, Англіі, Фінляндыі.

У Маладзечна прыехаў у рамках праекта «Гарадское мастацтва». У Беларусі ён першы раз.

– Асабіста для мяне горад пуставаты, па-свойму прыгожы. Людзі добрыя, ежа смачная. Напрыклад, бургеры на вуліцы лепшыя, чым у Еўропе. Дзяўчаты прыгожыя.

## Графіці аб'ядноўвае людзей

Райтэру падабаецца, што ў Беларусі шмат музычных і мастацкіх школ. Але думае, што трэба развіваць яшчэ і графіці на вуліцах, бо горад здаецца «стэрыльным».

– Быццам вяртаешся на 30 гадоў таму ў Таліне. Тады ўрад таксама не дазваляў графіці. Лічу, яно аб'ядноўвае людзей і дае ім тэмы для абмеркавання. Заўжды прыемна паглядзець на прыгожыя карціны.

**На павільёнах з'явіліся малюнкі раслін, птушак, аленяў. Таксама сярод малюнкаў сілуэты двух катоў – сімвала вуліцы ката Францыска і яшчэ аднаго мясцовага, пакуль невядомага.**

**Таццяна КАСЬЯН.**
**Фота аўтара.**

# У Будславе заклалі чарэшневы сад

## Праз некалькі год тут плануюць буйны чарэшневы фэст

МЯДЗЕЛ

**Вялікія планы па новым дыханні мястэчка пачалі здзяйсняцца ў суботу, 6 красавіка.**

На мерапрыемства сабраліся мясцовыя жыхары, школьнікі, а з Мінска прыехаў аўтобус з пілігрымамі. Агулам было каля ста чалавек.

Падрабязней пра падзею распавёў мясцовы жыхар аграном **Пётр Хацяновіч**.

Спачатку ў будслаўскім касцёле правёў набажэнства ксёндз **Уладзіслаў Завальнюк**, пробашч мінскага Чырвонага касцёла.

Пасля ў Доме культуры выступіў з лекцыяй кандыдат навук Інстытута пладаводства **Ілля Палубятка** і распавёў пра асаблівасці догляду за чарэшнямі. На гэту тэму прысутным паказалі і фільм.

Затым прысутныя пайшлі на падрыхтаваную пляцоўку для пасадкі чарэшань.

Агулам высадзілі 140 дрэў – столькі дазваляла плошча.



Фота забяспечанае Пятром ХАЦЯНОВІЧАМ.

Агулам высадзілі 140 дрэў – столькі дазваляла плошча.

**Да кожнага дрэва прымацавалі бірку з імем таго, хто яго пасадзіў. Побач ужо распрацоўваюць яшчэ адну пляцоўку, каб пазней сад пашырыць.**

Ініцыятыва гэтага сада належыць Уладзіславу Завальнюку. Вялікі сад размешчаны так, што ўсе значныя будслаўскія мерапрыемствы будуць праходзіць у яго атачэнні.

Менавіта чарэшню абралі новым брэндам мястэчка таму, што ягада не была занятая.

– У Глыбокім ладзяць вішнёвы фэст, а ў нас будзе чарэшневы, знайшлі нішу, – дзеліцца Пётр Хацяновіч. – Будзем усе даглядаць сад, і ўрэшце выгадуем свой брэнд. І праз чатыры-пяць гадоў запросім на будслаўскі чарэшневы фэст.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

## Пра рэалізацыю пілотнага праекта па маркіроўцы абутку сродкамі ідэнтыфікацыі

**15 сакавіка прынялі пастанову Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь №161 «Аб стварэнні нацыянальнай сістэмы маркіроўкі тавараў і рэалізацыі пілотнага праекта па маркіроўцы абутку сродкамі ідэнтыфікацыі» (далей – пастанова).**

Пастановай вызначаны аператар нацыянальнай сістэмы маркіроўкі тавараў – рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Белбланкавыд».

Пастановай на РУП «Выдавецтва «Белбланкавыд» ускладзеныя функцыі па забеспячэнні вырабу і (або) падачы вытворцам і імпарцёрам сродкаў ідэнтыфікацыі, а таксама забеспячэнні вядзення неабходнай інфармацыйнай сістэмы, узаемадзеяння з зацікаўленымі органамі і арганізацыямі, у тым ліку з кампетэнтнымі (упаўнаважанымі) органамі іншых дзяржаў-членаў ЕАЭС праз інтэграваную інфармацыйную сістэму ЕАЭС пры трансгранічным гандлі таварамі.

Каб апрабаваць новыя механізмы маркіроўкі тавараў, а таксама стварыць камфортныя ўмовы для малога і сярэдняга бізнесу, пастановай рэгламентавана ад 15 красавіка да 31 снежня рэалізацыя пілотнага праекта па маркіроўцы абутку сродкамі ідэнтыфікацыі (далей – пілотны праект).

Пілотны праект праведуць на добраахвотнай аснове. Ён дазволіць адпрацаваць новыя механізмы маркіроўкі тавараў, а таксама механізм інфармацыйнага ўзаемадзеяння з Расійскай Федэрацыяй.

Суб'ектам гаспадарання, якія зацікавіліся пілотным праектам, рэкамендуем звяртацца ў РУП «Выдавецтва «Белбланкавыд».

**Інспекцыя МПЗ Рэспублікі Беларусь па Маладзечанскім раёне.**

Чытайце **поўны тэкст дакумента на rh.by!** Адсканіруйце QR-код або перайдзіце па спасылцы: **bit.ly/abutakid**



ЛІЧБА НУМАРА

**2 012**

СТОЛЬКІ СТУДЭНТАЎ ПЛАНУЕ ПРЫНЯЦЬ БДУ НА БЮДЖЭТНУЮ ФОРМУ НАВУЧАННЯ Ў 2019 ГОДЗЕ

ПАВОДЛЕ САЙТА БДУ

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 4.04 руб. | 11.04 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2.1417 | **2.1233** |
| Еўра | 2.4063 | **2.3922** |
| Злоты, 10 | 5.6174 | **5.5908** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.2883 | **3.2780** |
| Грыўня, 100 | 7.9114 | **7.9195** |
| **Курсы ў «Банку БелВЭБ»** | **3.04** | **10.04** |
| Еўра | 2.3900/2.4100 | **2.3830/2.4030** |
| Долар ЗША | 2.1350/2.1520 | **2.1150/2.1330** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 3.04 | 10.04 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,99 | **18,99** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,40 | **3,75** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,21 | **6,94** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 10,00 | **10,00** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,50 | **4,70** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 5,50 | **5,90** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **3,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,20 | **1,20** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,85 | **1,85** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **2,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,20 | **2,20** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,80 | **1,80** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,80 | **1,80** |
| Агуркі, 1 кг | 4,50 | **2,90** |
| Баклажан, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,60 | **0,60** |
| Буракі, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Капуста, 1 кг | 2,50 | **2,70** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| Морква, 1 кг | 0,99 | **1,20** |
| Памідоры, 1 кг | 5,95 | **4,00** |
| Перац, 1 кг | 7,50 | **6,95** |
| Радыс, 1 кг | 4,90 | **7,00** |
| Салата, 100 г | 1,30 | **1,30** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,20 | **1,40** |
| Часнок, 1 кг | 4,90 | **5,50** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,70 | **5,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,30 | **2,60** |
| Бананы, 1 кг | 2,99 | **2,00** |
| Вінаград, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Грушы, 1 кг | 2,95 | **2,95** |
| Ківі, 1 кг | 2,50 | **3,80** |
| Лімоны, 1 кг | 2,90 | **3,70** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,80 | **3,30** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,45 | **1,45** |
| Грэцкі арэх, ядро, 1 кг | 25,00 | **25,00** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Устанавілі верагодную прычыну ўзгарання аўтамабіля

**МАЛАДЗЕЧНА**

4 красавіка ў Маладзечне ля паліклінікі №1 па вуліцы Францыска Скарыны гарэў аўтамабіль ВАЗ. Агонь пашкодзіў таксама легкавік «Пежо».

Як распавёў начальнік Маладзечанскага гаррайаддзела па надзвычайных сітуацыях **Дзяніс Ушацкі**, паведамленне пра ўзгаранне аўтамабіля ВАЗ паступіла ў цэнтр аператыўнага ўпраўлення каля 18:40. Машына была прыпаркаваная каля паліклінікі №1.

У выніку пажару аўтамабіль знішчаны цалкам. Пашкоджаная аддзелка сцяны на першым паверсе будынка паліклінікі і «Пежо-406», якое знаходзілася побач.

Прычыну пажару ўстанаўліваюць. Як мяркуюць, узгаранне магло адбыцца з-за кароткага замыкання электраправодкі.

Спецыялісты ГРАНС расказалі, што рабіць, калі загарэўся аўтамабіль.

Спачатку трэба паведаміць пра ўзгаранне па тэлефонах 101 або 112. Пры першых прыкметах узгарання – напрыклад, дыму з-пад капоту – неабходна пакінуць салон машыны. Адкрываць капот трэба асцярожна, лепш збоку. Не варта раскрываць яго шырока, бо прыток кіслароду дасць агню разгарэцца.

Струмень вогнетушыцеля трэба накіроўваць на ачаг узгарання, таксама можна скарыстаць тоўстую тканіну, брызент, пясок.

Калі справіцца з узгараннем не атрымоўваецца, а агонь ахоплівае ўсю машыну, рызыкаваць не варта, можа выбухнуць бензабак. Адыдзіце на бяспечную адлегласць самі і адвядзіце людзей. Аўтамабілі, якія стаяць побач, неабходна па магчымасці адкаціць у бок і абліць вадой, каб на іх не перакінуўся агонь.

**Таццяна КАСЬЯН.**

## Шукаў скарб, а знайшоў паўтысячы патронаў

**СМАРГОНЬ**
**АСТРАВЕЦ**

Раніцай 4 красавіка ў аператыўна-дзяжурную службу Смаргонскага РАУС паступіла паведамленне ад грамадзяніна 1977 года нараджэння. Мясцовы жыхар сказаў, што знайшоў 440 патронаў, якія хоча аддаць у праваахоўныя органы.

На месца прыехалі супрацоўнікі міліцыі, следчага камітэта і дзяржаўнага камітэта судовых экспертыз.

У прэс-службе УУС Гродзенскага аблвыканкама распавялі, што ў мужчыны знайшлі 440 патронаў калібру 7,62 міліметра. Паводле папярэдняй версіі, боепрыпасы захаваліся ад часоў Вялікай Айчыннай вайны.

Мужчына расказаў, што 3 красавіка займаўся раскопкамі ў вёсцы Відзюны Астравецкага раёна. У нейкі момант металашукальнік выявіў буйны прадмет. Дастаўшы яго з зямлі, мужчына зразумеў, што перад ім знаходзяцца боепрыпасы. У той дзень ён схаваў патроны ў гаражы, а на наступны дзень звярнуўся ў міліцыю.

Цяпер праводзяць праверку.

**Паводле УУС Гродна.**

## З-за выпальвання травы згарэлі шэсць нежылых дамоў

**СМАРГОНЬ**

Буйны пажар здарыўся 6 красавіка ў вёсцы Панарка Смаргонскага раёна ў выніку падпалу сухой расліннасці.

Агонь знішчыў шэсць нежылых дамоў, 11 гаспадарчых пабудоў, яшчэ дзве гаспадарчыя пабудовы пашкоджаныя.

Падобны выпадак у той жа дзень адбыўся ў садовым таварыстве недалёка ад вёскі Ліхачы Гродзенскага раёна. Пры выпальванні травы загарэліся і былі цалкам знішчаныя тры гаспадарчыя пабудовы.

**Паводле сайта МНС.**

## У лесе знайшлі труп жанчыны

**ВІЛЕЙКА**

Пра знікненне жанчыны сваякі паведамілі 3 красавіка. А праз дзень жыхарку Абадоўцаў знайшлі ў лесе мёртвай.

Жанчына сышла з дому раніцай 2 красавіка. На наступны дзень яе сужыцель заявіў у міліцыю. Жанчыну шукалі, але не знайшлі.

Сёння раніцай сын зніклай жанчыны паведаміў у міліцыю, што яна знайшлася. Труп знайшлі ў лесе без прыкмет гвалтоўнай смерці, расказаў карэспандэнту «Рэгіянальнай газеты» старшы оперуўпаўнаважаны Вілейскага РАУС **Віталь Паслед.**

**Аксана ЯРАШОНАК.**




Дзіка жыхар Вілейшчыны закалоў проста ў лесе.

# Закалоў дзіка пікай і схаваў мяса ў лесе

**8 красавіка ў Мядзельскую міжраённую інспекцыю аховы жывёльнага і расліннага свету з Вілейскага таварыства паляўнічых і рыбаловаў паведамілі, што каля вёскі Грыгаркі Кураненцкага сельсавета знайшлі мяшок з часткамі тушы дзіка.**

**ВІЛЕЙКА**

На месца выбыла група Мядзельскай міжраённай інспекцыі. Па гарачых слядах устанавілі, што жыхар Вілейскага раёна вечарам 7 красавіка закалоў дзіка металічнай пікай. Пасля мужчына разабраў тушу і мяса ў мяшках схаваў у лесе.

Вілейскі РАСК распачаў крымінальную справу. Вінаватаму пагражае крымінальная пакаранне аж да пазбаўлення волі, а таксама пакрыццё нанесеной шкоды навакольнаму асяроддзю ў памеры 120 базавых велічынь, што складае 3 060 рублёў, паведаміў карэспандэнту намеснік начальніка Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету **Раман Лесін**.

Па яго словах, фігуранта ўжо каралі раней за незаконнае паляванне.

Мядзельская міжраённая інспекцыя просіць паведамляць аб парушэннях прыродаахоўнага заканадаўства па тэлефоне 8 01797 50740 альбо на тэлефон даверу Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь – 8 017 39 00000, або на тэлефон 102. Інфармацыю абавязкова праверацьь.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## З-за дымара для пчол пачаўся вялікі пажар

**ВІЛЕЙКА**

Галоўны спецыяліст групы нагляду і прафілактыкі **Дзяніс Гаўрышчук** расказаў пра падрабязнасці здарэння.

Вілейскім выратавальнікам пра пажар паведамілі 5 красавіка каля гадзіны дня. Пажар пачаўся з двара дома №45 па вуліцы Рачная.

Гаспадар, які прыехаў з Мінска, вырашыў дагледзець пчол. Для гэтага выкарыстоўваў прыладу пчаляроў – дымар.

Іскра з дымара трапіла на сухую траву. Гаспадар пачаў тушыць, але агонь перакінуўся на гаспадарчую пабудову ў двары, якая цалкам згарэла.

У двары дома 47 згарэла частка даху. У двары дома 49 – таксама пацярпеў дах і цалкам згарэў хлеў.

У Вілейскім РАНС распавялі, што трэба рабіць, каб не адбылося падобнага здарэння:

• сухую расліннасць неабходна прыбіраць з двара;

• па магчымасці не спальваць смецце ў двары, а вывозіць яго. Калі ўсё ж паліце, трэба гэта рабіць не бліжэй, чым за дзесяць метраў ад будынкаў на абкапанай тэрыторыі ў бязветранае надвор'е, увесь час кантраляваць вогнішча, мець на месцы вядро з вадой ці вогнетушыцель.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Мікрааўтобус сутыкнуўся з матацыклам

**МАЛАДЗЕЧНА**

Аварыя здарылася 6 красавіка каля 12:40.

39-гадовы кіроўца ехаў на машыне «Фольксваген-Транспарцёр» па вуліцы Міру ў накірунку вуліцы Скарыны па другаснай дарозе з хуткасцю прыкладна 35 кіламетраў у гадзіну.

На скрыжаванні, што каля мікраараёна Снежны, кіроўца не адразу заўважыў матацыкл. Калі ж убачыў і пачаў тармазіць, было ўжо позна. Адбылося сутыкненне.

На матацыкле было двое – 20-гадовы кіроўца і 31-гадовы пасажыр. Абодвух забралі ў бальніцу. Пасажыру аказалі дапамогу і адпусцілі дадому.

Кіроўца – у траўматалогіі з цяжкімі пераломамі.

Маладзечанскія следчыя праводзяць праверку ДТЗ, распавёў карэспандэнту дзяржаўтаінспектар ДАІ Маладзечна **Сяргей Бартош**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Выклаў інтымныя фота былой дзяўчыны ў сацсетках

**МАЛАДЗЕЧНА**

19-гадовы жыхар вёскі Гарадок Маладзечанскага раёна размясціў у інтэрнэце ад імя сваёй дзяўчыны яе пікантныя здымкі і пералік платных інтымных паслуг. Такая была мужчынская рэакцыя на расстанне.

У міліцыю звярнулася 18-гадовая маладзечанка, якая паведаміла, што не можа атрымаць доступ да асабістых уліковых запісаў у сацыяльных сетках «Укантакце» і «Інстаграме». Акрамя таго, на яе старонках размешчаныя здымкі непрыстойнага зместу і запісы, быццам дзяўчына аказвае інтымныя паслугі за грашовае ўзнагароджанне.

Пад выглядам законнага карыстальніка на старонкі дзяўчыны ў сацсетках зайшоў яе знаёмы. Пароль ад акаўнтаў яна паведаміла яму асабіста незадоўга да інцыдэнту. Пасля некалькіх гадоў адносін маладыя людзі расталіся.

З рэўнасці або з помсты былы хлопец змяніў налады прыватнасці, а менавіта рэквізіты, неабходныя для ўваходу ва ўліковыя запісы.

Акрамя таго, выставіў на ўсеагульны агляд інтымныя здымкі дзяўчыны і запісы аб платных паслугах інтымнага характару, якія тая аказвае.

Адмаўляць дачыненне да дадзенага злачынствы фігурант не стаў, у зробленым раскаяўся. У яго дзеяннях угледжваюцца прыкметы складу злачынства, прадугледжанага арт. 351 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

Прадугледжаны альтэрнатыўныя віды пакарання, у тым ліку да дзесяці гадоў пазбаўлення волі.

У такіх выпадках крымінальныя справы не з'яўляюцца справамі прыватнага альбо публічнага абвінавачання. Таму могуць быць распачатыя праваахоўнымі органамі як па заяве пацярпелай асобы, так і без заявы.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

# Як рэкам рэчышчы мянялі

## Віляйчанін Франц Млечка быў сярод тых, хто адраджаў рысаводства ў Казахстане ў далёкія 1960-я

**Франца Млечку многія віляйчане ведаюць як шматгадовага намесніка дырэктара завода «Зеніт» па рэжыме і кадрах. А больш за паўстагоддзя таму ён быў сярод армейцаў, якія мянялі рэчышчы рэк Сярэдняй Азіі.**



Франц Млечка, 2019 год.

Фота Таццяны КАСЬЯН.

У сакавіку 1965 года Пленум ЦК КПСС прыняў пастанову па інтэнсіфікацыі сельскай гаспадаркі СССР, аб развіцці меліярацыі. У прыватнасці, прадпісвалася «стварыць буйныя інжынерныя рысавыя сістэмы і на працягу бліжэйшых гадоў цалкам забяспечыць краіну рысам».

Але ўжо ў пачатку года ў паўднёвых рысаводчых раёнах Казахстана высадзіліся дэсанты вайскоўцаў, мэтай якіх была рэстаўрацыя рысавых палёў. Сярод ваенных быў і сённяшні пенсіянер з Вілейкі ўраджэнец вёскі Жары Франц Млечка.

Франц Мікалаевіч успамінае:

– Якраз у гэты час я служыў вадзіцелем у вайсковай часці непадалёк ад Лепеля на машыне ГАЗ-69. Быў у распараджэнні камандзіра асобнага сапёрнага батальёна падпалкоўніка Сцяпанава. І ў канцы студзеня 1965 года наш батальён накіравалі на рэстаўрацыю рысавых палёў у Казахстан.

### Да месца ехалі сем сутак

Да месца дыслакацыі, Чыілійскага раёна Кзыл-Ардзінскай вобласці (цяпер Шыелі Кызылардзінскай вобласці), ехалі сем сутак. З вайскоўцамі – каля 300 чалавек – ішлі два саставы тэхнікі – скрэперы, экскаватары, бульдозеры.

Прыехаўшыя дыслакаваліся паміж населенымі пунктамі Чыілі і Ян-Курган. Да кожнага з іх было па паўсотні кіламетраў.

### Жылі па дзесяць чалавек у палатцы

– Прыбылі на месца ноччу ў пачатку лютага. Нягледзячы на тое, што гэта поўдзень Казахстана, надвор'е было халаднаватае. На тым месцы, дзе высадзіліся, стаяў толькі стары закінуты абрыкосавы сад сотак у 30. Але потым квітнеў ён надзвычай прыгожа.

На наступны дзень вайскоўцы расставілі палаткі, усіх забяспечылі спальнымі рэчамі. У кожнай палатцы – па дзесяць чалавек. Кіраўніцтва жыло ў асобных будынках – драўляных фінскіх доміках.

– У нас быў сапраўдны палатачны гарадок. Затым самі пабудавалі сталовую. Каб пясок і пыл Казахстана не перашкаджалі есці, капалі сталовую ў зямлі. Дарэчы, паёк быў добры: чай, мяса, масла.

Пітную ваду для вайскоўцаў вазілі з Чыілі – там была воданапорная вежа. Потым пабудавалі гаражы для рамонту тэхнікі. Было горача. Таму выкапалі басейн 150х50 метраў, каб плаваць.

У першыя ж дні Франц Млечка вазіў камандзіра Сцяпанава, старшыню райвыканкама і начальніка ПМК-32 па рысавых палях. У адсутнасць дакументацыі трэба было спланаваць, дзе размяшчаць чэкі.

**Уразіла карціна запусцення. Каналы перасохлі, на палях выраслі пясчаныя барханы.**

І гэта ўсё трэба было адраджаць.

### Працавалі ў тры змены

Ніякіх дакументаў для асваення палёў не было. Проста паказвалі, дзе капаць канал, арыкі да рысавых чэкаў ад рэчкі Сырдар'я. А гэта каля 50 кіламетраў.

Капалі канал, будавалі помпавыя станцыі.

Трэба было спланаваць усё так, каб на палях, падзеленых на чэкі 10х10 метраў, вада была на адпаведным узроўні – каля 10 см, каб быў адпаведны ўхіл: рыс не павінны быў засыхаць. Праца – нялёгкая. Шчыравалі ў тры змены.

### Вайскоўцы выступалі з канцэртамі

Канал вялі ад Сырдар'і. Трэба было паставіць дзве вялікія чэхаславацкія помпы, каб падняць ваду ў канал.

Прайшло больш за паўвека, а Млечка памятае самыя драбніцы. Прыкладна праз 15 дзён, у пачатку сакавіка, пачалі раўняць паверхню палёў. Сталі працаваць скрэперы і бульдозеры, капалі неглыбокія арыкі для падачы вады ў цэнтральны канал да рысавых палёў.

А месяцы праз тры побач з палатачным гарадком з'явіліся юрты, у якіх пасяліліся казахі, узбекі. Яны прыехалі з сем'ямі. Садзілі кавуны і дыні.

Неўзабаве батальён атрымаў загад распрацаваць яшчэ 500 гектараў палёў. Дзеля гэтага арганізавалі саўгас «Армейскі». У той год пабудавалі адміністрацыйны будынак побач з палатачным гарадком, школу для дзяцей казахаў і узбекаў – пачынаўся ж новы навучальны год. Школу ўзводзіў атрад з 15-20 армян. Потым пабудавалі і дамы.

Падчас службы салдаты ўдзельнічалі і ў культурна-масавых мерапрыемствах. Стваралі брыгады, ездзілі ў раён выступаць з канцэртамі. Усё сваімі сіламі.



Франц Млечка (злева) у Казахстане, 1965 год.



Құрметті жолдас

Млечко Франц Николаевич

Қызылорда облыстық партия комитеті мен еңбекшілер депутаттары облыстық Совет атқару комитеті Сізге облысымыздағы күріш егетін тың жерлерді игеруге белсене қатысқаныңыз үшін, мемлекеттік тапсырманы тиянақты орындағаныңыз үшін алғыс жариялайды.

Қазақстан КП облыстық партия комитетінің секретары М. ЫҚСАНОВ

Еңбекшілер депутаттарының облыстық Совет атқару комитетінің председателі Ә. АСҚАРОВ

Падзяка абкама і аблсавета Кзыл-Ардзінскай вобласці за выдатную працу, 1965 год.

Фотаздымкі забяспечаны Францам МЛЕЧКАМ.

### Салдат загінуў, калі ратаваў прарыў канала

У маі 1965 года Сырдар'я змяніла рэчышча. Такое ў пясках Сярэдняй Азіі не дзіва. Падачу вады ў асноўны канал давялося спыніць.

– Былі вялікія праблемы, каб павярнуць раку на сто метраў ва ўстаноўленае рэчышча. Сырдар'я вельмі віляе. Вырашылі зрабіць насыпы, павярнуць раку ў правы бок. У батальёне былі спецыялісты па выбуховай справе. У гарах Цімертаў узрывалі каменне, шчэбень і вазілі да ракі, каб яе павярнуць.

За дзесяць дзён Сырдар'ю вярнулі ў старое рэчышча, дзе стаялі помпы для падачы вады ў асноўны канал ад Ян-Кургана да рысавых чэкаў.

На асноўны канал была моцная нагрузка, па яго краях утвараліся прарывы. Вада ішла не туды, куды трэба. Каб іх ліквідаваць, каменне вазілі і днём, і ноччу.

– Было складана, але салдаты – народ адказны. Наш зямляк з Полацкага раёна геройчна загінуў у канале, калі спрабаваў ліквідаваць прарыў дамбы. Цела шукалі два тыдні. Пахавалі на могілках у Чыілі.

### Батальён падрыхтаваў 900 гектараў рысавых палёў

У выніку цягам дзевяці месяцаў сіламі салдат у саўгасе падрыхтавалі 900 гектараў палёў і атрымалі ўраджайнасць рысу 75 цэнтнераў з гектара. Батальён з'ехаў з Казахстана 7 лістапада 1965 года.

Сярод вайскоўцаў былі людзі ўсіх нацыянальнасцяў. Літоўцы **Тушка** і **Янкус**, малдаванін **Тулек**, казах **Султанаў**, шмат беларусаў. Франц Млечка згадвае свайго таварыша з Маладзечна вайсковага фельчара **Рамана Васілевіча**. На жаль, Рамана ўжо няма ў жывых. Многія маладзечанцы памятаюць яго як выдатнага доктара-стаматолага. Млечка – як таварыша, з якім дзяліў нягоды армейскага жыцця. Франц Мікалаевіч у размове з карэспандэнтам казаў, што служылі з ім у Казахстане і іншыя землякі з нашага рэгіёна. На жаль, прайшло шмат часу і аднавіць у памяці ўсе імёны цяжка:

– Але можа хто сам успомніць тыя дні і звернецца да вас у газету, – не траціць надзеі на агульныя ўспаміны пенсіянер з Вілейкі.

За выдатную працу Кзыл-Ардзінскія абласны камітэт кампартыі Казахстана і выканкам Савета дэпутатаў адзначылі Франца Млечку падзякай. Для ветэрана гэта адна з самых дарагіх узнагарод у жыцці.

– Казахі – людзі надзвычай добрыя і цікавыя. Дай бог ім поспехаў і добрых сувязяў з намі, беларусамі, літоўцамі, малдаванамі, рускімі і іншымі народамі. А ўсё ж цікава было б паглядзець, як там, на рысавых чэках, цяпер, – усміхнуўся на развітанне Франц Мікалаевіч.

**Таццяна КАСЬЯН.**

● КАЛЯНДАР

12 КРАСАВІКА

**1926.** У Вільні пачаўся так званы «працэс 94-х» – суд, арганізаваны польскімі ўладамі над дзеячамі заходнебеларускага нацыянальнага руху (доўжыўся да 22 красавіка 1926 г.).

14 КРАСАВІКА

**1885.** Нарадзіўся **Сымон Рак-Міхайлоўскі** (в. Максімаўка, цяпер Маладзечанскі раён), грамадска-палітычны дзеяч, сябар Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, публіцыст, заснавальнік і дырэктар настаўніцкай семінарыі ў Барунах (1920–1922 гг.).

16 КРАСАВІКА

**1832.** Нарадзіўся **Альфрэд Ромер** (г. Вільня), мастак, скульптар, медальер, мастацтвазнаўца, этнограф, удзельнік паўстання 1863-1864 гг.

**1959.** 60 гадоў назад памерла **Зінаіда Бандарына**, празаік, паэт, перакладчык. У 1948–1950 гадах працавала загадчыцай філіяла музея Янкі Купалы ў Вязынцы. Нарадзілася 11 кастрычніка 1909 года.

17 КРАСАВІКА

**1891.** Нарадзіўся **Язэп Варонка**, палітычны дзеяч, журналіст, публіцыст, дзеяч эміграцыі ў ЗША. У лютым-ліпені 1918 – старшыня Народнага сакратарыяту Беларусі і народны сакратар замежных спраў, адзін з ініцыятараў абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. У красавіку 1918 разам з іншымі актывістамі Рады БНР падпісаў тэлеграму кайзеру Вільгельму II з падзякай «за вызваленне Беларусі нямецкімі войскамі ад цяжкага прыгнёту, гвалту і анархіі».

18 КРАСАВІКА

**1814.** Нарадзіўся **Яўстах Тышкевіч**, гісторык, краязнаўца, адзін з заснавальнікаў беларускай навуковай археалогіі.

**1838.** Нарадзіўся **Уладзіслаў Дыбоўскі** (маёнтак Адамарын, цяпер Маладзечанскі раён), удзельнік паўстання 1863–1864 гадоў, заолаг, батанік, палеантолаг, мінералог, фалькларыст. Доктар мінералагічных навук. Брат Бенядзікта Дыбоўскага. Памёр 27 ліпеня 1910 года.

**1847.** Памёр **Станіслаў Юндзіл**, прыродазнаўца, адзін з першых даследчыкаў расліннага і жывёльнага свету Беларусі, доктар філасофіі і тэалогіі (1798), прафесар батанікі і заалогіі Віленскага ўніверсітэта. Нарадзіўся 6 мая 1761 года.

**1952.** За адну ноч з Заходняй Беларусі на ўсход СССР вывезлі 1683 сям'і, што былі абвінавачаныя ў «варожай дзейнасці супраць калгасаў».

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Жахлівая пасылка ад брата і шахматы, што ледзь не каштавалі жыцця

## Пра што расказаў 89-гадовы маладзечанец

МАЛАДЗЕЧНА
СМАРГОНЬ

*Заканчэнне. Пачатак у №14.*

**Пра Другую сусветную, брата, што згінуў на Калыме, пра жалобны мітынг у гонар смерці Сталіна і народны духавы аркестр гармоннай фабрыкі гутарым з 89-гадовым Сяргеем Жабінскім.**

### З Маладзечна – у Тулу

Калі мой субяседнік у 1953-м exaў з войска дадому – убачыў аб'яву. У ёй гаварылася пра набор маладых людзей вучыцца рабіць музычныя інструменты. На навучанне трэба было ехаць на фабрыку ў Тулу.

Сяргей Жабінскі музыкай займаўся з часоў дзяцінства на Смаргоншчыне. Спачатку былі баян і акардэон, якія асвоіў самавукам. У арміі навучылі іграць на трамбоне. Таму прапанова хлопца зацікавіла.

– Пайшоў у будынак, што месціўся на вуліцы 17 Верасня ў Маладзечне, – прыгадвае Сяргей Міхайлавіч. – Там паглядзелі мае дакументы і сказалі, што вельмі добра, што ўмею іграць.

Так хлопец апынуўся на фабрыцы музычных інструментаў у Туле. Група, што прыехала з Маладзечна, складалася з 30 дзяўчат і хлопцаў. У Туле вучыліся два гады: хто гармонікі настройваў, хто збіраў.

Калі ж надышоў час ехаць дамоў, кіраўнік тульскай фабрыкі пачаў угаворваць групу з Маладзечна застацца ў Туле. На думку Сяргея Міхайлавіча, некаторыя рэчы яны сталі рабіць лепш, чым работнікі фабрыкі. Таму і не хацелі пускаць. Моладзь вырашыла застацца.

А **Пётр Смірноў**, першы дырэктар гармоннай фабрыкі ў Маладзечне, чакаў маладых людзей з Тулы на сваё прадпрыемства. За іх вучобу і грошы не малыя былі заплачаныя.

Спачатку Пётр Смірноў пісаў лісты ў Тулу, запрашаў маладзечанцаў вяртацца. Казаў, што будуць добрыя пасады і заробкі. Калі ж зразумеў, што так нічога не атрымаецца, прыехаў сам. Пайшоў да тульскага калегі і кажа:

– Мы ж грошы вам плацілі, каб вы вучылі нашых майстроў.

Пытанне вырашылася за адны суткі. Маладзечанцы здалі інструменты, сабралі свае рэчы і рушылі дамоў.

### Як ствараўся аркестр гармоннай фабрыкі

Так ад 1955 года Сяргей Жабінскі пачаў жыць у Маладзечне і працаваць на гармоннай фабрыцы. Тры гады быў начальнікам зборачнага цэха. Пасля перайшоў настройшчыкам. Сябраваў з вядомым майстрам гармонікаў **Мікалаем Суднікам**. Неаднаразова насіў яму інструменты на рамонт.

Ці не ад пачатку свайёй працы мой субяседнік загарэўся ідэяй стварыць на фабрыцы духавы аркестр. Пра гэта пачаў прасіць кіраўніцтва прадпрыемства. Некаторых музыкантаў-аматараў Сяргей Жабінскі запрашаў у аркестр. І тых адразу ўладкоўвалі на працу на фабрыку.


Фота з сямейнага архіва героя.

Так выглядаў Сяргей Жабінскі падчас працы ў аркестры.

– Усе ўдзельнікі духавога аркестра павінны былі шмат рэпеціраваць. Дзеля гэтага на працу прыходзілі раней і пазней сыходзілі, – прыгадвае былы кіраўнік аркестра.

### У стварэнні аркестра ёсць вялікая заслуга жонкі дырыжора

У калектыве было чалавек 30. Сярод іх як музыканты з адукацыяй, так і людзі, якія пачыналі вучыць ноты непасрэдна ў аркестры.

Па словах Сяргея Міхайлавіча, былі і такія, якім музычныя здольнасці не дадзеныя зусім. Тады кіраўнік тактоўна ім пра гэта казаў. Разумеў, лепш так, чым марнаваць час і нервы.

З часам аркестр атрымаў званне народнага. Выступалі шмат. Ездзілі з канцэртамі ў Мінск, Ленінград, у гарады Эстоніі. Інструменты і форму для музыкантаў набывалі за кошт фабрыкі.

– Не ведаю, дзе сёння тыя інструменты і форма, – дзеліцца мой субяседнік. – Калі фабрыка развальвалася, я хацеў іх у чацвертую школу перадаць. Але кіраўніцтва, здаецца, аддало ў пажарную часць.

Сёння Сяргей Міхайлавіч, які аддаў працы ў аркестры 35 год, не разумее, чаму на прадпрыемствах Маладзечна няма ніводнага духавога аркестра. Ды і саміх некалі буйных прадпрыемстваў ужо даўно няма, сам адказвае мужчына на сваё пытанне.

Шмат вольнага часу забіраў аркестр у кіраўніка. Двух сыноў больш выхоўвала жонка, з якой яны таксама пазнаёміліся на фабрыцы.

– Але жонка ніколі не крыўдавала на мяне з-за працы ў аркестры. Заўсёды адпускала на рэпетыцыі і паездкі. Таму ў стварэнні і дзейнасці нашага музычнага калектыву вельмі вялікая і яе заслуга, – падсумаваў Сяргей Міхайлавіч.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# А вы ведалі, дзе ў Маладзечне да 1950-х стаяў вялікі бетонны крыж?

МАЛАДЗЕЧНА

**Да страчанай міжваеннай архітэктурнай спадчыны Маладзечна можна аднесці адзін высокі бетонны высокі крыж, які паставілі за польскім часам на сённяшняй Цэнтральнай плошчы.**

Да 1929 года гэты раён быў далёкай ускраінай горада. Пасля 1929-га да горада далучылі Гелянова, але цэнтрам ад гэтага будучая плошча не стала.

Гэты крыж фактычна абазначаў уезд у горад з боку Вільні, менавіта ад яго пачыналася Віленская вуліца, якая і цяпер носіць такую ж назву.

Крыж, яго грунтоўны пастамент і доўгі цень добра бачныя на нямецкім аэрафота часоў вайны.

Крыж перажыў вайну і прастаяў ледзь не да канца 1950-х гадоў. Месца яго ўстаноўкі прысутнічае на геападаснове



Так магла б выглядаць Цэнтральная плошча сёння, каб на ёй у 1950-х пакінулі крыж.

генплана 1956 года. Паводле гэтага генплана паўставала новая плошча Леніна (цяпер Цэнтральная). Тады крыж і знеслі.

Кажуць, што пры яго знosе выкарыстоўвалі выбухоўку. Бо пастамент пад крыжам быў вельмі масіўны, ламам не паддаваўся.

**Уладзімір САДОЎСКІ,**
**Маладзечна.**
**Фота аўтара.**

● ПАКУЛЬ ІДЗЕ РЭКЛАМА

# Трэшчыны

## Ваша эмацыйнае здароўе



З кнігі «Сто графічных тэстаў».

**Паглядзіце на трэшчыны на гэтым рысунку. Што вы можаце дадаць да іх, каб гэта карцінка набыла закончаны выгляд?**

### Ключ да тэста

Самае першае, на што варта звярнуць увагу, – гэта на самі ТРЭШЧЫНЫ.

**1. Калі вы АБВЯЛІ ТРЭШЧЫНЫ, ЯРКА ВЫДЗЕЛІЎШЫ ІХ,** то гэта гаворыць пра тое, што ў дадзены жыццёвы момант вы знаходзіцеся не ў лепшым стане. Верагодна, вы перажываеце стрэс, моцна ўсхваляваныя або пакрыўджаныя. Гэта значыць, вас перапаўняюць адмоўныя эмоцыі.

**2. Калі вы ВЫДЗЕЛІЛІ ТОЛЬКІ АДНУ АБО НЕКАЛЬКІ ТРЭШЧЫН,** то можна выказаць здагадку, што вы чымсьці заклапочаныя, пра нешта перажываеце, аднак ваш стан нармальны, вы можаце справіцца са сваёй праблемай без староннняй дапамогі.

**3. Калі вы НАРЫСАВАЛІ МНОСТВА НОВЫХ ТРЭШЧЫН** у дадатак да тых, што ўжо ёсць, то гэта гаворыць пра тое, што вы павольна апускаецеся ў бездань адчаю. Вы не можаце знайсці выхад з жыццёвай сітуацыі, якая склалася, і адмаўляецеся ад барацьбы, вы замкнуліся ў сабе і зацыкліліся на сваіх перажываннях.

**4. Калі вы НАРЫСАВАЛІ ЯКІ-НЕБУДЗЬ ПРАДМЕТ** паміж трэшчынамі ці па-над імі, то гэта гаворыць аб вашым жыццялюбстве і нежаданні апускаць рукі ў цяжкую хвіліну. Вы не збіраецеся паддавацца адчаю. Вы эмацыйна здаровы чалавек.

**5. Калі вы НАРЫСАВАЛІ ЖЫВЁЛУ ЦІ ЧАЛАВЕКА** над трэшчынамі або паміж імі, то гэта гаворыць пра тое, што ў цяперашні час вы разгубленыя, збянтэжаныя, вам дрэнна, аднак вы стараецеся не думаць пра свае праблемы, гоніце ад сябе прэч цяжкія думкі.

**6. Калі вы ЗАКРУГЛІЛІ КАНЕЦ КОЖНАЙ ТРЭШЧЫНЫ,** то гэта гаворыць аб вашым нежаданні глядзець праўдзе ў вочы, вы паўтараеце ўсім і кожнаму, што ў вас усё ў парадку, што ў вас няма праблем, і нават самі ў гэта верыце. Аднак праблемы ў вас ёсць, і не такія малыя. Вы блізкія да нервовага зрыву, і калі вы будзеце і далей ігнараваць свае праблемы, будзеце пераконваць сябе, што іх не існуе, то вельмі хутка ён, нервовы зрыў, наступіць.

**7. Калі вы ЗАКЛЮЧЫЛІ ТРЭШЧЫНЫ Ў АДНУ ВЯЛІКУЮ ФІГУРУ,** то гэта гаворыць аб вашым цвярозым розуме і цвярозым поглядзе на жыццё. Вы ўмееце спраўляцца з любымі непрыемнасцямі, а калі часам і перажываеце, то вашы эмоцыі ўсё роўна не выходзяць з-пад кантролю. Калі вашы трэшчыны **ЗАКЛЮЧАНЫЯ Ў КВАДРАТ,** то вы схільныя да самааналізу і рэфлексіі, але вашы эмоцыі заўсёды падпарадкоўваюцца вашаму розуму. Калі ж ваша фігура мае **АКРУГЛЫЯ АБРЫСЫ**, то, хутчэй за ўсё, вы спраўляецеся са сваімі эмоцыямі, выліваючы іх на іншых.







## 8 канал

ВОСЬМОЙ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 15 АПРЕЛЯ**

**7.00, 15.55, 19.05, 21.05, 0.30** «Погода».
**7.05, 16.05** Мульт-сериал «Чип и Дейл».
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«ДЕВЯТЬ ЯРДОВ».**
**9.10** Д/ф «ВЕРНОСТЬ И ИЗМЕНА. КАК ПРОВЕРИТЬ ЧУВСТВА».
**9.40, 19.10** Т/с **«МАРЧЕЛЛА».**
**10.30** Д/с «Путешествие по городам с историей».
**11.00** Х/ф **«НИКОГДА НЕ ВОЗВРАЩАЙСЯ».**
**12.55, 20.05** Т/с **«СМЕРТЕЛЬНОЕ ОРУЖИЕ».**
**13.40** Х/ф **«ОПАСНАЯ МИССИЯ».**
**16.30** Д/ф «ТИТАНИК».
**17.20** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Мини-сериал «Титаник».

**ВТОРНИК, 16 АПРЕЛЯ**

**7.00, 15.55, 18.25, 21.05, 0.25** «Погода».
**7.05, 16.05** Мульт-сериал «Чип и Дейл».
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«БЕЛЛЬ И СЕБАСТЬЯН».**
**9.00, 15.25** Д/с «Дорога в школу».
**9.30, 18.30** Т/с **«МАРЧЕЛЛА».**
**10.30** «Мой любимый питомец».
**11.00** Х/ф **«ТЕХНОЛОГИЯ ОБМАНА».**
**13.00** Т/с **«СМЕРТЕЛЬНОЕ ОРУЖИЕ».**
**13.45** Х/ф **«ВО ВЛАСТИ СТИХИИ».**
**16.40** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**19.20** «Вечерний квартал-95».
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«О ЧЕМ ЕЩЕ ГОВОРЯТ МУЖЧИНЫ».**
**22.50** Х/ф **«АФЕРИСТЫ ПОНЕВОЛЕ».**

**СРЕДА, 17 АПРЕЛЯ**

**7.00, 15.55, 19.10, 21.05, 0.40** «Погода».
**7.05, 16.05** Мульт-сериал «Чип и Дейл».
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«МУЖЧИНЫ В ГОРОДЕ».**
**9.15** Д/ф «ФЕНОМЕН ЛЮБВИ».
**9.45, 19.15** Т/с **«МАРЧЕЛЛА».**
**10.30** «Синьцзян».
**11.00** «Вечерний квартал-95».
**12.30** Х/ф **«О БЕДНОМ ГУСАРЕ ЗАМОЛВИТЕ СЛОВО».**
**15.25** Д/ф «ВО ВЛАСТИ РЕВНОСТИ».
**16.30** Д/ф «УРАЛ».
**17.30** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**20.05** Т/с **«СМЕРТЕЛЬНОЕ ОРУЖИЕ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ДЕВУШКА, КОТОРАЯ ЗАПУТАЛАСЬ В ПАУТИНЕ».**
**23.05** Х/ф **«В СПОРТЕ ТОЛЬКО ДЕВУШКИ».**

**ЧЕТВЕРГ, 18 АПРЕЛЯ**

**7.00, 15.55, 19.10, 21.00, 0.55** «Погода».
**7.05, 16.05** Мульт-сериал «Чип и Дейл».
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«О ЧЕМ ГОВОРЯТ МУЖЧИНЫ».**
**9.10, 15.30** Д/с «Путешественник».
**9.40, 19.15** Т/с **«МАРЧЕЛЛА».**
**10.30** Х/ф **«ЭКИПАЖ».**
**12.55, 20.05** Т/с **«СМЕРТЕЛЬНОЕ ОРУЖИЕ».**
**13.40** Х/ф **«ПРИШЕЛЬЦЫ».**
**16.30** «Мой любимый питомец».
**17.00** Д/ф «БОЛЕЗНИ СОЦИУМА».
**17.25** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**19.00** «Фешн is my профешн».
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«ТЕЛОХРАНИТЕЛЬ».**
**23.15** Х/ф **«ДРЕЙФ».**

**ПЯТНИЦА, 19 АПРЕЛЯ**

**7.00, 15.55, 19.10, 21.05, 1.15** «Погода».
**7.05, 16.05** Мульт-сериал «Чип и Дейл».
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«8 НОВЫХ СВИДАНИЙ».**
**9.00** Д/с «Путешествие по городам с историей».
**9.30, 19.15** Т/с **«МАРЧЕЛЛА».**
**10.15** Х/ф **«ОПАСНАЯ МИССИЯ».**
**12.35, 20.05** Т/с **«СМЕРТЕЛЬНОЕ ОРУЖИЕ».**
**13.20** Х/ф **«ТРАНСФОРМЕРЫ».**
**16.30** «Синьцзян».
**17.00** «Мой любимый питомец».
**17.25** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** «Вечерний квартал-95».
**22.50** «Герои комиксов на экране»: «Мстители».

**СУББОТА, 20 АПРЕЛЯ**

**7.00, 19.05, 21.15, 1.10** «Погода».
**7.05** Мультфильмы «Барашек Шон».
**7.15** Д/с «Неизвестная планета Земля».
**8.05** Мультфильмы «Союз зверей».
**9.35** «Утрямдия».
**9.40** Х/ф **«МСТИТЕЛИ».**
**12.05** Т/с **«БЕЗ СРОКА ДАВНОСТИ».**
**13.40** Х/ф **«ЖЕНИТЬБА БАЛЬЗАМИНОВА».**
**15.10** «Смотрим всей семьей»: «Побег из курятника».
**16.30** Х/ф **«ПОКРОВСКИЕ ВОРОТА».**
**18.55** «Друзья дедушки Марко».
**19.10** Х/ф **«ДЕВЯТЬ ЯРДОВ – 2».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.05** «Фешн is my профешн».
**21.20** Х/ф **«ШПИОНСКИЕ ИГРЫ».**
**23.25** Х/ф **«О ЧЕМ ГОВОРЯТ МУЖЧИНЫ».**

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 21 АПРЕЛЯ**

**7.00, 16.10, 18.55, 21.05, 1.20** «Погода».
**7.05** Мультфильмы «Барашек Шон».
**7.15** Д/с «Неизвестная планета Земля».
**8.15** Мультфильмы «Добрыня Никитич и Змей Горыныч».
**9.25** «Утрямдия».
**9.30** «Мой любимый питомец».
**10.00** «Синьцзян».
**10.30** «Вечерний квартал-95».
**12.00** Х/ф **«8 НОВЫХ СВИДАНИЙ».**
**13.30** Х/ф **«ТРАНСФОРМЕРЫ».**
**16.15** «Смотрим всей семьей»: «Друзья навек».
**17.45** «Отвечайка».
**17.50** «Друзья дедушки Марко».
**18.10** Т/с **«КАСЛ».**
**19.00** Х/ф **«ЛЕД».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ВЕЛИКОЛЕПНАЯ СЕМЕРКА».**
**23.35** Х/ф **«БЫСТРЫЙ И МЕРТВЫЙ».**

## МКТВ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 15 АПРЕЛЯ**

**6.30** Х/ф **«СКАНДИНАВСКИЙ ФОРСАЖ».**
**8.05, 14.35, 22.20** Мажорный лад.
**13.00** Х/ф **«ИГРУШКА».**
**16.00** Х/ф **«СКАНДИНАВСКИЙ ФОРСАЖ. ГОНКИ НА ЛЬДУ».**
**17.35** Новости БЖД.
**18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**19.15** Всё обо всём.
**20.15** Рядом со звездами:.

**ВТОРНИК, 16 АПРЕЛЯ**

**6.30, 7.15** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 8.15, 18.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.25, 16.45, 22.20** Мажорный лад.
**12.00** Х/ф **«ОХОТНИКИ ЗА ПРИВИДЕНИЯМИ».**
**13.35** Х/ф **«РОЖДЕСТВЕНСКИЕ ХРОНИКИ».**
**15.15** Х/ф **«СУПЕРБОБРОВЫ».**
**19.15** Все обо всём.
**20.15** Х/ф **«ТЕОРИЯ ХАОСА».**

**СРЕДА, 17 АПРЕЛЯ**

**6.30, 8.15** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.15** Мая Радзіма.
**7.45** Всё обо всём.
**10.00** Х/ф **«КРЫСИНЫЕ БЕГА».**
**11.50, 14.50, 19.15, 22.20** Мажорный лад.
**13.00** Х/ф **«РАЗВОД ПО-ФРАНЦУЗСКИ».**
**14.30** Х/ф **«УРОКИ ВЫЖИВАНИЯ».**
**20.15** Мнения и факты.
**20.30** Музыкальная открытка.

**ЧЕТВЕРГ, 18 АПРЕЛЯ**

**6.30, 7.15, 8.15** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**10.00** Рядом со звездами.
**11.50** Х/ф **«КАНИКУЛЫ МЕЧТЫ».**
**13.25** Х/ф **«ЧЕРНАЯ МОЛНИЯ».**
**15.40, 19.15, 22.20** Мажорный лад.
**20.15** Х/ф **«О ЧЕМ МОЛЧАТ ДЕВУШКИ».**

**ПЯТНИЦА, 19 АПРЕЛЯ**

**6.30, 7.20** Песня на завтрак.
**6.50, 18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00** Новости: время местное.
**8.20** Мая Радзіма.
**10.00** Х/ф **«МАЖОРНЫЙ ЛАД».**
**14.10** Х/ф **«ЭТОТ НЕЛОВКИЙ МОМЕНТ».**
**16.15** Будьте здоровы.
**19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**19.30** Всё обо всём.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.30** Мажорный лад.

**СУББОТА, 20 АПРЕЛЯ**

**6.30, 7.40, 8.40** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 8.30, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**7.30** Таланты края.
**7.35, 19.30** Всё обо всём.
**9.40** Х/ф **«МЭРИ ПОППИНС ВОЗВРАЩАЕТСЯ».**
**11.40** Х/ф **«МАЖОРНЫЙ ЛАД».**
**14.50, 21.10** Новости БЖД.
**16.25, 19.40, 22.30** Мажорный лад.
**20.30** Желаем вам.

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 21 АПРЕЛЯ**

**6.30** Мажорный лад.
**9.00** Х/ф **«ВСЕ ИЛИ НИЧЕГО».**
**10.50** Х/ф **«ДЕНЬ РАДИО».**
**12.35** Х/ф **«МЭРИ ПОППИНС ВОЗВРАЩАЕТСЯ».**
**14.40** Х/ф **«ИЛЛЮЗИЯ ОБМАНА».**
**16.45** Х/ф **«МЕЖДУ АНГЕЛОМ И БЕСОМ».**
**18.25** Х/ф **«МАЖОРНЫЙ ЛАД».**
**21.00** Х/ф **«ПЯТЫЙ ЭЛЕМЕНТ».**

# Ці патрэбная ў пашпарце бліскучая налепка за 60 еўра?

## Прадстаўнікі рэгіёна – пра тое, як атрымоўвалі візы, і пра бязвіз

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА

**Праца, адпачынак, вучоба, гасцяванне. Прычыны, па якіх нашым героям спатрэбілася атрымоўваць візы, – розныя. Розныя і гісторыі такога атрымання.**

Выкладчыца польскай мовы ўраджэнка Маладзечна **Аляксандра Парахня** рабіла каля 15 віз. Гэта Шэнген – на Фінляндыю, Германію ці Літву, а таксама польскія нацыянальныя візы.

### Паехаць у Вільню – без анкет і рэгістрацый

Спачатку гэта былі кароткатэрміновыя візы на ўдзел у нейкім замежным праекце або для паездкі да сяброў. Калі ж Аляксандра пачала вучыцца ў Польшчы, спатрэбіліся доўгатэрміновыя мультывізы.

> **– Сама плаціла за візу я толькі некалькі разоў, – кажа дзяўчына. – Арганізатары праектаў заўсёды ў запрашэннях просяць не браць візавы збор, і амбасады звычайна ідуць насустрач. Са студэнтаў, якія вучацца за мяжой, таксама не бяруць грошай.**

Калі б я плаціла за ўсё сама, то на маіх візах можна было б азалаціцца, жартуе Саша. Але, на шчасце маёй субяседніцы, Візавы кодэкс прадугледжвае бясплатныя візы.

Асаблівых непаразуменняў з супрацоўнікамі амбасады і празмернай бюракратыі не было. Аднак часам усё ж мусіла даносіць дакументы. Або запытаўшы гадавую візу, атрымоўвала яе на два гады.

Калі Аляксандра вучылася ў Польшчы, яшчэ не было візавага цэнтра. Студэнтка прыязджала дамоў зімой, канікулы доўжыліся два тыдні. А бліжэйшыя рэгістрацыі ў консульства былі на май.

– Тады я пісала ў консульства, тлумачыла, што я студэнтка. Што тэрмінова трэба вярнуцца на вучобу, бо да мая мяне адлічаць, – прыгадвае Аляксандра сваё студэнцтва.

Пасля прыходзіла за гадзіну да адкрыцця консульства. Там былі дзве чаргі: для людзей з рэгістрацыяй і для такіх, як наша гераіня.

Тых, хто без рэгістрацыі, запрашалі раз на паўгадзіны. Таму лютаўскім марозам дзяўчына паспявала моцна змерзнуць.

Ці спрасціў бы бязвіз жыццё беларусам? Безумоўна, лічыць Саша:

– Без віз стала б нашмат менш бюракратыі і бегатні па візавых цэнтрах і консульствах. Захацелася табе купіць яблыкаў у Вільні – садзішся на цягнік і праз тры гадзіны грызеш тыя яблыкі. А не садзішся запаўняць анкету, рэгістравацца на падачу праз месяц, стаяць у чарзе, купляць 60 еўра. Ужо ўсіх яблыкаў расхочацца.

> **А яшчэ Саша мае сяброў у розных краінах свету. Таму для яе важна, каб візы адмянілі ў двухбаковым рэжыме. Шмат яе замежных сяброў не даехала да Беларусі, бо яны адвыклі ад візавай бюракратыі і не хочуць з ёй звязвацца.**

– Людзі часта думаюць, што калі адмяніць візы, то ўзрасце злачыннасць і нелегальная міграцыя. Але гэта не так: на мяжы ж застанецца праверка дакументаў і мытны кантроль. Проста для паездак перастануць клеіць у пашпарт гэту бліскучую налепачку за 60 еўра, – падсумавала Аляксандра.

### Чыноўнікі баяцца бязвізу

Праваабаронца з Маладзечна **Алесь Капуцкі** візы атрымоўвае па грамадскай лініі, гэта значыць, амаль заўсёды бясплатна. Адзіныя выдаткі – на фота і страхоўку.

На думку Алеся, бязвіз спрасціў бы жыццё людзям.

Але гэта вельмі б абцяжарыла чыноўнікаў, – лічыць суразмоўца. – Бо народ яшчэ больш масава хлынуў на заробкі на Захад.

### За візай у Швецыю едуць у Эстонскую амбасаду

Для віляйчанкі, харэографа **Алесі Раздзялоўскай**, візы – справа звычайная. Родная сястра Алесі жыве ў Швецыі. І візу дзяўчына робіць па яе запрашэнні. Хаця знешне такая віза практычна нічым не адрозніваецца. Толькі ў самым ніжнім радку ў графе «Мэта паездкі» пазначаюць не турызм, а наведванне сваякоў або сяброў.

Візу ў Швецыю Алеся атрымоўвае ў Эстонскай амбасадзе ў Мінску.

– Кошт візы стандартны – 60 еўра. Робяць дастаткова хутка. Адносіны ў амбасадзе добрыя. Што трэба – падкажуць, дзе трэба – дапамогуць, – дзеліцца Алеся.

Кажа, што акрамя візы да сястры, часта летам бярэ візу на адпачынак у Балгарыю. Лічыць, што без віз ёй было б прасцей: паездкі абыходзіліся б без лішніх выдаткаў часу і грошай.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**



Чарга па візы каля акенца ў Літоўскую амбасаду.




Інфографіка Ігара ПАЛЫНСКАГА.

# «Як можна быць такімі свіннямі?»

## Прыборка ў межах акцыі «Зробім!» прайшла на Астравеччыне

АСТРАВЕЦ

**Традыцыйную прыборку ў суботу, 6 красавіка, арганізаваў каардынатар «Зялёнага дазору» Аляксандр Дарашэвіч. Да яго далучыліся вучні і настаўнікі Спондаўскай школы-сада.**



Для дзяцей прыборку можна ператварыць у гульню.

Сёлета ўдзельнікі прайшліся з прыборкай у двух кірунках: ад вёскі Вялікая Страча да вёскі Страчанка, а таксама ад Страчанкі да Чорнай Лужы.

Пакеты для смецця напаўняліся хутка: у іх траплялі пераважна пластыкавыя і шкляныя бутэлькі, раскіданыя па ўскраінах дарог, а таксама асобныя пакеты са смеццем, якія нехта не данёс да смеццевых кантэйнераў.

– Мы прыбіраемся тут ужо каторы год. Калі параўноўваць сённяшнюю прыборку з першымі, то смецця стала трохі менш, – заўважае Аляксандр Дарашэвіч. – Але да чысціні нам яшчэ вельмі далёка.

Мужчына перакананы, што нават з пункту гледжання псіхалогіі важна пакідаць пасля сябе чысціню: тады і ў наступнага чалавека, які будзе ісці міма, не падымецца рука кінуць смецце. Калі ж смецця і так хапае, то спрацоўвае мысленне «тут і так брудна, мая бутэлька не зробіць горш».

Для вучняў Спондаўскай школы-сада прыборка ператварылася ў прыгоду.

**Крык «скарб!» азначаў, што нехта з дзяцей натрапіў на кучу смецця, прысыпаную лісцем і галінкамі.**

На гэты кліч збягаліся на дапамогу іншыя, каб забраць смецце з сабой.

– Як можна цэлыя пакеты выкідваць у кусты? Ну як так? Што гэта за свінні тут праходзілі? – такімі пытаннямі многія вучні рэагавалі на чарговую «знаходку».

Вынікі сёлетняй прыборкі ўражваюць – 53 пакеты смецця сярэднім аб'ёмам 160 літраў. Столькі назбіралі ўдзельнікі за паўтары гадзіны працы.

– Важна навучыцца правільна сартаваць смецце і не дапускаць, каб пластык трапляў у навакольнае асяроддзе. Там ён раскладаецца на мікрапластык і ў выніку трапляе ў нашы талеркі і шклянкі з вадой, – тлумачыў дзецям Аляксандр Дарашэвіч пасля прыборкі.



Аляксандр Дарашэвіч.




Пасля справы можна і адпачыць.

А каб смецце не даводзілася сартаваць, то лепей звярнуцца да прычын яго ўзнікнення – празмернага спажывання. Для гэтага варта не ленавацца перад кожнай пакупкай задаваць сабе пытанне – ці сапраўды мне патрэбная гэта рэч? Ці пакупка навязаная грамадствам або рэкламай і модай?

Дзеці засталіся задаволеныя тым, як правялі дзень. Яны не толькі зрабілі добрую справу, але і добра бавілі час пасля прыборкі: у двары сельскага клуба для іх арганізавалі гульні і салодкі пачастунак.

На пытанне, ці далучацца яны да наступных прыборак і ці будуць вучыць іншых не брудзіць, дзеці адзінагалосна адказвалі «так!».

Прыборка праходзіла пры падтрымцы грамадскай экалагічнай ініцыятывы «Зялёны дазор», якая забяспечыла ўдзельнікаў пальчаткамі і пакетамі для збору смецця.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

# 30 мяхоў смецця і ўнітаз: вілейчукі прыбралі каля Віліі

**6 красавіка жыхары Вілейкі зладзілі суботнік.**

Прыбралі трыста метраў берага Віліі. Па словах арганізатараў, прыйшло дзесяць чалавек.

Сабралі шмат пластыкавых і шкляных бутэлек, пачак ад цыгарэт, будаўнічыя адходы і нават пакінуты кімсьці ўнітаз. Доўгімі палкамі даставалі смецце з Віліі.

Арганізатары спадзяюцца, што наступным разам на такія мерапрыемствы прыйдзе больш гараджан. А таксама, што людзі будуць больш беражліва ставіцца да навакольнага асяроддзя.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота з суполкі УКантакце «Навіны Вілейкі».

Падчас суботніка на Віліі.

# Таршэр

У сучасным свеце мы перанасычаныя лішняй інфармацыяй. Часам, каб знайсці вартую кнігу ці фільм, мы губляем не адзін вечар. Таму вырашылі рабіць падборкі самых вартых твораў мастацтва, каб нашы чытачы маглі знайсці ў іх падказкі.

Гэта могуць быць кнігі, фільмы, серыялы, музыка ці карціны. Важна, каб гэта былі сапраўды вартыя ўвагі творы. Каб вы, вярнуўшыся з работы дамоў, ведалі, як з карысцю можна бавіць вечар.

Героямі гэтай рубрыкі мы запрашаем нашых чытачоў і герояў публікацый. Яны выбіраюць свой спіс і расказваюць, чаму менавіта гэтыя творы зачапілі іх. Няхай у вашых вечарах з таршэрам будзе больш вартых увагі твораў.

# «І ў вайну радаваліся жыццю і захоўвалі пачуццё гумару»

**Госця сённяшняга выпуску «Таршэра» – адна са стваральніц праекта «Вуліца стрыт-фуда», сузаснавальніца адукацыйнага цэнтра, маладзечанка Валянціна Сідоркіна. Жанчына расказала пра свой спіс з дзесяці любімых кніг і фільмаў.**


Фота забяспечана Валянцінай СІДОРКІНАЙ.

Маладзечанка Валянціна Сідоркіна.

Люблю кнігі і фільмы, якія прымушаюць задумацца, перагледзець стаўленне да жыцця, пакідаюць адчуванне дабрыні і свята, жаданне любіць сям'ю і блізкіх. Чытаю пераважна з электроннай кнігі – гэта лепшы падарунак, які атрымала за апошнія гады. Можна знайсці і ўзяць з сабой любую кнігу.

Фільмы гляджу радзей, чым хацелася б, таму выбіраць стараюся максімальна якасныя. Раней было шкада кінуць фільм, не даглядзеўшы, цяпер так і раблю, калі адчуваю, што не дацягвае – шкада часу на пустыя рэчы.

### Кнігі

1. **«Віно з дзьмухаўцоў», Рэй Брэдберы**

Самая любімая, самая летняя кніга! Яна напоўненая пахамі, гукамі і пачуццямі. Спякотнае лета ў маленькім гарадку, у якім жывуць звычайныя людзі: хлопчыкі, дзяўчынкі, дарослыя і старыя... Усяго толькі тры месяцы, але гэтыя тры месяцы – цэлае жыццё з мільёнам адкрыццяў!

Успамінаецца сваё сонечнае дзяцінства, і хочацца дзяцінства сваіх дзяцей зрабіць такім жа – светлым, радасным, блізкім да прыроды. «Віно з дзьмухаўцоў» – сапраўдная порцыя чарадзейства, схаваная пад кніжнай вокладкай.

2. **«Другое жыццё Увэ», Фрэдрык Бакман**

І кніга, і аднайменны фільм цудоўныя! Яны пра адзінокага мужчыну, які пасля смерці каханай жонкі пачынае губляць сувязь з рэальнасцю, ні з кім не размаўляючы, часам забываючы нават паесці.

І як жа моцна ён супраціўляецца з'яўленню ў сваім жыцці маладой цяжарнай суседкі, якой пастаянна нешта ад яго трэба! За ёй у яго жыццё адзін за адным прыходзяць іншыя людзі і раскрываюць тыя рысы, пра якія і сам Увэ не падазраваў.

3. **«Такі цудоўны дзень», Айра Левін**

Я вялікая прыхільніца антыўтопій, чытаю шмат у такім жанры. Гэту кнігу была гатовая чытаць у любы час дня і ў любым месцы! Забягае гадоў на 150-200 наперад, дзе людзі моцна змяніліся: няма больш шкодных звычак, зайздрасці, агрэсіі. Здаецца, ідэальны свет, але не ўсё так проста.

Сюжэт настолькі непрадказальны – увесь час паварочваў у нечаканы бок. Гэта, напэўна, было адным з галоўных плюсаў кнігі для мяне, а яшчэ тое, што падзеі, якія адбываюцца, учынкі і герояў кнігі нельга падзяліць на белае і чорнае, усё неадназначна.

4. **«Клуб аматараў кніг і пірагоў з бульбяных лупін», Мэры Эн Шэфер і Эні Бероўз**

Пачала чытаць з-за незвычайнай назвы і маёй цікавасці да кніжных клубаў. І аказалася, што гэты раман у лістах цудоўны. Ён прабіваў і на шчырыя слёзы, і на смех у голас. Аказваецца, і ў ваенны час можна радавацца жыццю і захоўваць пачуццё гумару.

Доўга пасля гэтай кнігі ў мяне было шчымліва-светлае пачуццё! А яшчэ ў рамане ёсць выдатная фраза, якая ў поўнай меры адносіцца і да самога твора: «Добрыя кнігі адбіваюць усю ахвоту ад дрэнных».

5. **«Злая зорка», Іван Шамякін**

З беларускіх аўтараў самы любімы – Шамякін. Гісторыя Чарнобыля паказаная праз жыццё звычайных людзей, такіх жывых і зразумелых, і для мяне зусім па-новаму адкрыўся маштаб таго, што адбылося.

Падобныя эмоцыі былі ад спектакля «Чарнобыльская малітва» ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі і ад кнігі Святланы Алексіевіч – калі толькі слёзы дапамагаюць справіцца з эмоцыямі. Быццам бы і далёка тыя падзеі, і ў той жа час зусім побач, закранулі і маю сям'ю.

6. **«Сага пра Пеўзнераў», Анатоль Алексін**

Алексіна вельмі шмат чытала ў старэйшых класах, бо пісаў ён шмат чаго для падлеткаў. Якая ў яго мова!

«Сагу пра Пеўзнераў» прачытала некалькі месяцаў таму ўпершыню. Кніга да глыбіні душы мяне кранула. Яна распавядае пра яўрэйскую сям'ю – бацькоў і траіх блізнят, што праходзяць праз пасляваенныя падзеі ў СССР, якія выклікаюць адчуванне безвыходнасці і здзіўлення: няўжо такое магло быць? Кніга, цудоўная па напале і трагічнасці, душу вывернула навыварат і прымусіла падумаць пра тое, пра што я так востра не думала раней: наколькі гэта важна – жыць, не звяртаючы ўвагі на прозвішчы і нацыянальнасці.

### Фільмы

7. **«Стажор»**

Фільм пра 70-гадовага ўдаўца, які рызыкнуў уладкавацца стажорам у буйную інтэрнэт-фірму па продажы адзення. Яго задача – дапамагаць Джулс, маладому кіраўніку, заснавальніку фірмы, жанчыне з нялёгкім на першы погляд характарам.

Фільм спадабаўся, напэўна, яшчэ і таму, што вельмі цікава было назіраць за бізнесам і стылем працы Джулс. Дзяўчатам у бізнесе «Стажор» дакладна спадабаецца.

8. **«Жыццё па Джэйн Осцін»**

Столькі кахання і гармоніі ў гэтым фільме! Паглядзела зусім выпадкова, і з таго часу пераглядзела не раз. Пяць жанчын і адзін мужчына ствараюць кніжны клуб для абмеркавання кніг знакамітай пісьменніцы. А пакуль чытаюць і абмяркоўваюць кнігі, паралельна імкнуцца разабрацца са сваімі душэўнымі перажываннямі, якія на самой справе не вельмі далёкія ад перажыванняў літаратурных герояў.

І кожны знаходзіць для сябе адказ. Менавіта з гэтага фільма пачалася мая цікавасць да кніжных клубаў.

У Маладзечне ён таксама якраз з'явіўся, такі доўгачаканы для мяне, хутка першая сустрэча!

9. **«Заплаці іншаму»**

Даўно і горача любімы фільм, які дае штуршок паспрабаваць змяніць свет, ці хаця б зрабіць невялікую добрую справу для таго, хто побач. Выконваючы школьнае заданне, хлопчык прыдумвае сістэму «заплаці іншаму»: ты робіш камусьці добрую справу і просіш яго дапамагчы іншым тром людзям, кожны з якіх, у сваю чаргу, аддзячыць яшчэ траім і так далей па ланцужку. Фільм прымушае зрабіць дзве высновы:

1. Гэта ж рэальна, вельмі проста і можа працаваць, чаму б і не?

2. Трэба верыць у дзяцей і даваць ім бязмежную прастору для творчасці і фантазіі.

10. **Серыял «Гэта мы»**

Серыялаў на маім рахунку няшмат, большасць з іх былі досыць цяжкія. Як жа я ўзрадавалася, калі знайшла серыял «Гэта мы»! Ён настолькі просты, зразумелы, лагічны і, самае галоўнае, светлы.

Сям'і, пра якую ідзе гаворка, сапраўды верыш і суперажываеш – яны цудоўныя ў сваёй неідэальнасці. Думаю, кожны зможа адшукаць у адным з герояў сябе. Але самае галоўнае, серыял пра каханне: ён вучыць любіць і прымаць не толькі сваю сям'ю, але і сябе такім, які ты ёсць.

## Ашмянскія валейбалісткі занялі другое месца ў першынстве Гродзенскай вобласці

АСТРАВЕЦ

Валейбольны клуб NIKA ўжо некалькі гадоў працуе ў СШ №1 пад кіраўніцтвам трэнера **Андрэя Лукашэвіча**. У складзе клуба трэніруюцца, выязджаюць на абласныя і рэспубліканскія спаборніцтвы толькі дзяўчаткі.

Нядаўна каманда спартсменак вярнулася з двухдзённых спаборніцтваў – першынства Гродзенскай вобласці па валейболе сярод дзяўчат 2003-2004 гадоў нараджэння. На валейбольную пляцоўку ў Ваўкавыску, дзе праходзілі гульні, выйшла 18 камандаў з розных куткоў Гродзеншчыны.

Астравецкія валейбалісткі годна згулялі дзесяць гульняў, але саступілі камандзе з Мастоў і занялі другое месца. Дзяўчаты не сумуюць і ў адзін голас паўтараюць, што ў наступным годзе дадому яны вернуцца толькі з перамогай.

У складзе каманды выступілі спартсменкі СШ №1 **Дыяна Лыскойць**, **Кіра Кашчыц**, **Дар'я Шынкевіч**, **Дар'я Баравая**, **Аліна Бразоўская** і капітан **Жанна Лыскойць**. Дзяўчат падтрымалі спартсменкі, вучаніцы Гальшанскай СШ і Мураванаашмянкаўскага ВВК **Ілона Кабак** і **Ангеліна Малышка**.

У перапынках паміж спаборніцтвамі спартсменкі не прапускаюць ніводнай трэніроўкі і рыхтуюцца выйграць Кубак горада па валейболе. У планах – удзел у таварыскіх матчах з рознымі спартыўнымі школамі рэспублікі. Вось толькі не заўсёды ёсць магчымасць арганізаваць выезд каманды за межы раёна. Трэнер валейбольнага клуба Андрэй Лукашэвіч спадзяецца, што ў бліжэйшы час удасца наведаць і, вядома ж, выйграць, некалькі валейбольных гульняў. Бо вынікі валейбалістак залежаць не толькі ад трэніровак у спартзале, але і ад перамог і паражэнняў у спаборніцтвах, дзе дзяўчаты пастаянна набіраюцца досведу і павышаюць свае майстэрства.

Вялікую дапамогу і падтрымку ў арганізацыі паездак на абласныя і рэспубліканскія спаборніцтвы валейбольнаму клубу аказваюць інструктар-метадыст фізкультурна-спартыўнага клуба **Пётр Давідовіч** і дырэктар цэнтра творчасці дзяцей і моладзі **Ірына Буйніцкая**.

Спартсменкі з задавальненнем прымуць у сваю каманду тых, хто хоча сур'ёзна займацца валейболам. Андрэй Лукашэвіч распавёў, што заўсёды рады бачыць у спартзале вучаніц не толькі іншых школ. Запісацца ў валейбольны клуб ад жніўня да верасня могуць дзяўчынкі 2008, 2007 г. н. і маладзейшыя.

**Кацярына РУДЗІК,**
**паводле osh.by.**

## У Смаргоні адкрылі футбольную лігу дзяўчат

СМАРГОНЬ

Упершыню ў Беларусі пачала дзейнічаць футбольная ліга для дзяўчат, узрост якіх не перавышае 13 гадоў. Адкрыццё турніру, які рэалізуецца пры падтрымцы FIFA і Беларускай федэрацыі футбола, прайшло ў Смаргоні 6 красавіка на стадыёне ДЮСШ па футболе.

У дэбютным сезоне ў футбольнай лізе дзяўчат гуляюць 60 калектываў з усёй Беларусі, у тым ліку каманда са Смаргоні. Удзел у спаборніцтвах прымаюць не толькі каманды ДЮСШ ці спецыялізаваных вучэбна-спартыўных устаноў, але і прадстаўніцы звычайных агульнаадукацыйных школ або фізкультурна-спартыўных клубаў пры выканкамах.

– Гэта ўнікальны праект, які па ўсёй Беларусі адкрывае для дзяўчат выдатны свет футбола. Гульня №1 цудоўная тым, што яна прыносіць шмат эмоцый. Больш за тое, знішчае бар'еры паміж людзьмі: сацыяльныя, палітычныя і, што асабліва важна ў сучасных рэаліях, гендарныя. Мы прыкладаем шмат намаганняў, кабператварыць жаночы футбол у масавы від спорту. І з дапамогай футбольнай лігі дзяўчат робім істотны крок у накірунку гэтай мэты, – адзначыў намеснік старшыні АБФФ **Міхаіл Вяргеенка**.

Каманды падзеленыя на восем зон па тэрытарыяльным прынцыпе. Пераможцы васьмі рэгіянальных зон выходзяць на рэспубліканскі этап і ў пачатку чэрвеня прыязджаюць у Мінск, дзе ў матчах па алімпійскай сістэме вызначаць лепшую каманду Беларусі.

Ліга адукацыйна-арыентаваная: кожны дывізіён названы ў гонар вядомай беларускі.

У дывізіёне «Сцеша», у якім гуляе смаргонская каманда, змагаюцца за выхад у плэй-оф сталічная «Славянка», прадстаўніцы ФСЦ Першамайскага раёна Мінска, ФК «Старт» (Мінск), футбалісткі СДЮШОР «МТЗ» (Мінск), ФК «Мінск-1», «Зорка – БДУ» (Мінск) і футбалісткі маладзечанскай ДЮСШ-4.

**Сяргей ЮРЭВІЧ,**
**паводле shliah.by.**



Падчас таварыскай гульні ФК «Смаргонь» і ФК «Маладзечна».

# З'явіўся каляндар гульняў другой лігі на сезон 2019 года

## Футбольны чэмпіянат стартуе 20 красавіка

МАЛАДЗЕЧНА

**У чэмпіянаце будуць удзельнічаць 15 фубольных камандаў.**

Гэта Ашмяны-БДУФК, ДЮСШ-3-Стэнлес (Пінск), Узда, Белшына-2, Асіповічы, Арсенал (Дзяржынск), Івацэвічы, Горкі, Вікторыя (Мар'іна Горка), Энергетык-БДАТУ (Мінск), Нёман-Агра (Стоўбцы), Клецк, Маладзечна, СМІаўтатранс (Смалявіцкі раён) і Чысць.

Чэмпіянат стартуе 20 красавіка. Маладзечна прыме ФК «СМІаўтатранс».

Таксама з'явіўся каляндар гульняў другой лігі на сезон 2019 года.

**1 тур – 20 красавіка**

Ашмяны-БДУФК – ДЮСШ-3-Стэнлес
Узда – Белшына 2
Асіповічы – Арсенал
Івацэвічы – Горкі
Вікторыя – Энергетык-БДАТУ
Нёман-Агра – Клецк
Маладзечна – СМІаўтатранс

**2 тур – 27 красавіка**

Клецк – Маладзечна
Энергетык-БДАТУ – Нёман-Агра
Горкі – Вікторыя
Арсенал – Івацэвічы
Белшына 2 – Асіповічы
ДЮСШ-3-Стэнлес – Узда
Чысць – Ашмяны-БДУФК

**3 тур – 05 мая**

Узда – Чысць
Асіповічы – ДЮСШ-3-Стэнлес
Белшына 2 – Івацэвічы
Вікторыя – Арсенал
Нёман-Агра – Горкі
Маладзечна – Энергетык-БДАТУ

| | |
|---|---|
| 20.04.2019 | **Маладзечна – СМІаўтатранс** |
| 27.04.2019 | **Клецк – Маладзечна** |
| 05.05.2019 | **Маладзечна – Энергетык-БДАТУ** |
| 12.05.2019 | **Горкі – Маладзечна** |
| 18.05.2019 | **Маладзечна – Арсенал** |
| 25.05.2019 | **Белшына 2 – Маладзечна** |
| 01.06.2019 | **Маладзечна – ДЮСШ-3-Стэнлес** |
| 08.06.2019 | **Чысць – Маладзечна** |
| 15.06.2019 | **Маладзечна – Ашмяны БДУФК** |
| 22.06.2019 | **Узда – Маладзечна** |
| 29.06.2019 | **Маладзечна – Асіповічы** |
| 06.07.2019 | **Івацэвічы – Маладзечна** |
| 13.07.2019 | **Маладзечна – Вікторыя** |
| 20.07.2019 | **Нёман-Агра – Маладзечна** |

Гульні ФК «Маладзечна» ў першым крузе чэмпіянату.

**Аддзел інфармацыі.**

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. У савецкім кінематографе героі Віцына былі вядомымі алкаголікамі. У рэальнасці ж акцёр трымаўся цвярозага ладу жыцця. Больш за тое, ён часта спрыпыняў здымкі, таму што па графіку займаўся ёй.
2. Тонкая гнуткая галінка, дубец.
6. Шматмесны пасажырскі аўтамабіль.
7. Адна з буйнейшых рэк, што цякуць праз Беларусь.
8. Скажонае ўяўленне, уражанне, заснаванае на падмане пачуццяў.
10. Скручаная ў трубку папера, тканіна, цэлафан.
13. Ягадная вечназялёная расліна сямейства бруснічных, якая расце на мохавых балотах.
14. Натуральная або штучная ўпадзіна, напоўненая вадой.
15. Хімічны элемент, цяжкі коўкі метал серабрыстага колеру, які ў спалучэнні з вугляродам утварае чыгун і сталь.
18. Узор.
19. Другі месяц калярнага года.
20. Цяжар цела.
24. Крывяносны сасуд.
26. Знак для абазначэння ліку.
27. Горад, дзе здымалі «Прыгоды Электроніка».
30. Буйназярністы жоўты пясок.
31. Алкагольны напітак, прыгатаваны з ягад, садавіны.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
3. Першы, найменшы цэлы лік.
4. Прыстасаванне для ахаладжэння вады або алівы, паветра ў маторах аўтамабіляў, трактароў, самалётаў.
5. Род твораў у галіне мастацтва.
9. Адказ, рашэнне нечага тайнага, незразумелага.
11. У славянскай міфалогіі – жыхар лесу, лясны дух.
12. Дробныя пласцінкі, якія размешчаныя на паверхні цела некаторых пазваночных жывёлін.
16. Пушысты, валакністы матэрыял, звычайна з бавоўны, прызначаны для медыцынскіх, бытавых і тэхнічных мэт.
17. Колер будынка, які ў 60-я гады 19 стагоддзя быў самым вялікім у ЗША.
19. Прыбор для штучнага асвятлення з дапамогай электрычнага току, спальвання газы, нафты.
21. Спакойнае, нічым не засмучанае, шчаслівае існаванне.
22. Спевы.
23. У карлікавай дзяржаве Науру ў Ціхім акіяне гэтая інфраструктура ў даўжыню чатыры кіламетры.
25. Страва з дробна парэзанага і ўтушанага з гароднінай мяса або ўтушанай гародніны з вострым соусам.
28. Частка прадмета, на якой замацоўваюцца астатнія яго часткі.
29. Абарона.
32. Напярэдадні вывяржэння вулкана ў Пампеі людзі адчувалі штуршкі. Але не пяражывалі, таму што думалі, нібы гэта ходзяць яны.

## Адказы на крыжаванку з №14

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Дуга. 4. Мінск. 5. Лялька. 8. Абзац. 10. Лярд. 11. Дар. 12. Арышт. 13. Дэталь. 14. Атака. 15. Макарона. 19. Ювентус. 20. Лішак. 22. Пеле. 23. Таварыш. 24. Лёгкія. 25. Лыжка.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Мадэрн. 3. Кавалак. 4. Мускул. 6. Вайбер. 7. Волга. 9. Мода. 11. Дырэктар. 13. Дэдэрон. 16. Гулівер. 17. Амулет. 18. Шэры. 21. Скарбы. 22. Полацк.



## ГАРАСКОП 12-18 КРАСАВІКА

**АВЕН.** Час не падыходзіць для авантур, але рашучыя дзеянні могуць прынесці вынікі, на якія вы і не разлічвалі. Не крыўдзіце блізкіх, пазбягайце крытыкі.

**ЦЯЛЕЦ.** Вы імкнецеся ўплываць на свет, навязваць навакольным сваю волю, хоць рабіць гэтага не варта, асабліва цяпер. Усе дні прысвяціце сузіранню таго, што адбываецца вакол. А цяпер усё само ідзе да вас, таму важна нічога і нікога не спудзіць залішняй напорыстасцю.

**БЛІЗНЯТЫ.** Усе гэтыя дні вы будзеце атрымліваць асалоду з раніцы да вечара, смакуючы кожнае імгненне. Асабліва цудоўнымі будуць выхадныя, праведзеныя не ў адзіноце.

**РАК.** Нейкія дзверы прыйдзецца адчыняць сілай, затое іншыя самі адчыняцца перад вамі. Усю сваю сілу накіруйце на станоўчыя змяненні ў сваёй душы.

**ЛЕЎ.** Вы схільныя драматызаваць падзеі, якія адбываюцца вакол вас. Сузіранне самога сябе, пагружанага ў свае праблемы, шмат у чым надуманыя, не дазваляе вам адэкватна рэагаваць на тое, што адбываецца вакол. А чаканне дапамогі з боку, пазіцыя пакрыўджанага і абдзеленага зусім адрывае вас ад рэальнасці, якая праз нейкі час імкліва памяняецца. Вас чакаюць сур'ёзныя змены, уплываць на якія вы не зможаце па ўласнай волі (можа, так яно і лепей).

**ДЗЕВА.** Сілкуйце сваё сэрца, нутро любоўю кожны дзень, і гэта будзе лепшымі лекамі ад хвароб, стрэсаў. Больш бывайце на прыродзе і любуйцеся яе прыгажосцю. Навучыцеся бачыць у кожным чалавеку толькі добрае.

**ШАЛІ.** Бярыцеся за складаныя задачы і верце ў тое, што ўсе цяжкасці ўдасца пераадолець. Нездарма кажуць: «Вочы баяцца, а рукі робяць». Рабіце тое, што вам падабаецца, і не бойцеся гаварыць «не» нават блізкім людзям.

**СКАРПІЁН.** Узрост – гэта лічба. Калі вам 20, вы думаеце, што 50 – гэта кашмар. Але калі вам 50, вы адчуваеце, што вам 30. Наш узрост не павінны вызначаць нашых адносін да жыцця. Не давайце лічбам мяняць вас.

**СТРАЛЕЦ.** Удзячнасць робіць чалавека шчаслівейшым. Прычым не толькі таго, каму яна адрасаваная, але і таго, хто яе гаворыць. Не забывайце дзякаваць людзям за ўсё, што яны для вас робяць.

**КАЗЯРОГ.** Трацьце грошы па сваіх магчымасцях і не залазьце ў даўгі. Жывіце свабодна. Даўгі не дазволяць вам гэтага зрабіць. Будзьце адкрытыя і шчырыя – гэта здорава, гэта лекі. І гэта дае магчымасць людзям верыць вам і дзяліцца з вамі сваімі эмоцыямі, а вы можаце дзяліцца з імі ў адказ.

**ВАДАЛЕЙ.** Маленькія рэчы таксама важныя. Усе мы чакаем вялікіх перамог і дасягненняў і забываем пра тое, што яны складаюцца з дробных і бывае нават незаўважаных крокаў. Цаніце гэтыя крокі.

**РЫБЫ.** Прыслухоўвайцеся да інтуіцыі. Вашы разважанні вельмі важныя, але інтуіцыя – гэта ваша суперсіла. Яна выкарыстоўвае ваш досвед і жыццёвую мадэль, каб знайсці адказ на любое пытанне. Бывае, яна ўзнікае спантанна, і лепш прыслухацца да яе.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 8 | 9 | | 5 | 1 | | | | |
| 1 | 2 | | | | 3 | 5 | | |
| 5 | 4 | | | 9 | 2 | | | |
| 2 | 7 | 8 | | | | | | |
| | | | | | 6 | 4 | | |
| | | | 1 | 3 | | 9 | | |
| | | 2 | | 6 | | 7 | | |
| | | | | | 9 | | 6 | 3 |
| | | | 7 | 5 | 8 | | | 4 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

## Чытайце праз тыдзень

- **Што рабіць маладому чалавеку з інваліднасцю пасля заканчэння школы? Чаму адукацыю атрымаць нялёгка, а ўладкавацца на працу яшчэ цяжэй? Гутарым у рэдакцыі «Рэгіянальнай газеты» з псіхолагам, юрыстам, праектным менеджарам, людзьмі з інваліднасцю.**



## Вясновым сонейкам сагрэта «Рэгіянальная газета»



### Падпісацца на «РГ» можна:

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Цiснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

✓ **на пошце**
✓ **праз паштальёна**
✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 4 рублі 20 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 12 рублёў 50 капейкі.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*



**У адным з маладзечанскіх двароў зладзяць дзень шпакоўні**

Фота забяспечанае Ірынай ТАРХАН.

МАЛАДЗЕЧНА

### 13 красавіка ў двары дома па Скарыны, 1 актыўныя жыхары зладзяць дзень шпакоўні.

Запрашаюць далучыцца да мерапрыемства ўсіх ахвотных. Прычым не толькі паглядзець, але і паўдзельнічаць.

– На мерапрыемства можна прынесці сваімі рукамі зробленую шпакоўню. Канешне, арыгінальнасць вітаецца, але асаблівых патрабаванняў няма. Думаю, дзень шпакоўні асабліва цікавым будзе для дзяцей. Самыя цікавыя шпакоўні адзначым падарункамі, – кажа актывістка двара **Ірына Тархан**. – Пачынаць трэба з малога, таму вырашылі дэкараваць двор прыгожымі шпакоўнямі, у якія будуць прылятаць птушкі. Лічу, будзе класна.

Развешваць шпакоўні плануюць па двары ў гэты ж дзень.

Пачатак мерапрыемства а 12-й. Уваход вольны.

**Таццяна КАСЬЯН.**

## 13 красавіка, субота

**Вецер:** паўночна-ўсходні, 6-7 м/с




Усход 6.16
Захад 20.10
Даўжыня дня 13.54

Усход 11.54
Захад 3.51
Месяц расце

### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВАЛОЖЫН

Мінімальная тэмпература -7,1°С у 1986 годзе
Максімальная тэмпература +19,6°С у 1989 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 15 мм у 2016 годзе

Паводле meteoinfo.by.

ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Вас калі-небудзь штрафавалі?



**Павел Кот, спецыяліст па рабоце з кліентамі, Маладзечна:**

– Былі хіба што перавышэнні хуткасці, звычайна плаціў 0,5 базавай. Хаця неяк атрымаў каля 84 рублёў. А знаёмым давалі штрафы і за пераход у неналежным месцы, і за кіраванне без правоў. Ёсць знаёмы, які атрымаў штраф, бо ездзіў нецвярозым.



**Аляксей Югбардзіс, прараб, Смаргонь:**

– Так, па працы, супрацоўнікі ДАІ далі чатыры базавыя за несвоечасовую ліквідацыю выбоін на праезнай частцы. Працую ў ДРБУ. Вясной – найбольшая колькасць ям, што звязана з кліматычнай зонай, у якой знаходзіцца Беларусь. Дарожнікі фізічна не паспяваюць заладзіць іх на ўсіх дарогах.



**Кацярына Мінянкова, у дэкрэтным адпачынку, Маладзечна:**

– Менавіта я не атрымоўвала, але мужу за стаянку ў неналежным месцы далі штраф, гэта апошняе, што я памятаю. Недзе да адной базавай.



**Ганна Бакшук, хімік, Смаргонь:**

– Я адказны пасажыр, заўжды аплачваю праезд. Але ў студэнцтве было пару разоў, калі не было дробных грошай, і два разы злавілі на «Дружнай». Яшчэ ў цягніку трэба было праехаць дзве станцыі, не паспела набыць білет, нас адпусцілі, бо свае станцыі ўжо праехалі.



**Настасся Рынкевіч, юрысконсульт, Маладзечна:**

– Заўсёды набываю або праязны, або білеты, таму што штрафы атрымоўваць не хочацца.



**Дзмітры Позныш, тэхнік-праграміст, Мядзел:**

– Тройчы ад ДАІ: за адсутнасць тэхагляду, праезд скрыжавання і перавышэнне хуткасці. Неяк падчас студэнцтва білет праваліўся ў кішэні пад падкладку курткі, прыйшлося плаціць зноў за праезд і за білет. Прыехаў на месца, дастаў злашчасны білет.



**Марына Кезік, шліфавальшчык, Вілейка:**

– Аднойчы за няпройдзены своечасова тэхагляд машыны. Заплаціла адну базавую велічыню.

**Падрыхтавала Таццяна КАСЬЯН.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4200 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№15 (1250) 12.04.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 564. Падпісана ў друк у 9.00 11.04.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.